

# Восьмая нечарговая сесія

## Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь дванаццатага склікання

## Бюлетэнь № 1

Выданне Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

1991

## ПАСЯДЖЭННЕ ПЕРШАЕ

(Аўторак, 17 снежня 1991 года)

Зала пасяджэнняў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь
10 гадзін.

Старшынствуе Старшыня Вярхоўнага Савета
Рэспублікі Беларусь С.С.Шушкевіч.

Старшыня. Шаноўныя народныя дэпутаты, добрай раніцы! Прашу народных дэпутатаў падрыхтавацца да рэгістрацыі. Прашу зарэгістравацца. Прысутнічаюць 256 народных дэпутатаў. Кворум у наяўнасці, але мінімальны. Пачынаем нашу работу. Дазвольце адкрыць першае пасяджэнне нечарговай восьмай сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

Паважаныя народныя дэпутаты Рэспублікі Беларусь, паважаныя народныя дэпутаты СССР, паважаныя члены Урада, паважаныя госці! Мы перажываем нялёгкі момант. Я думаю, тое, што ў нас адбылося, і тое, што адбываецца, абавязвае нас кансалідаваць усе палітычныя сілы на Беларусі і накіраваць іх талент, іх магутнасць, іх уменне на вырашэнне нашых асноўных праблем на сённяшні дзень -- эканамічных праблем. У гэтай рабоце мы павінны дзейнічаць аб'яднана і знайсці той шлях, які дазволіць вывесці беларускі народ, усіх тых, хто жыве на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, да добрага жыцця.

Я б хацеў сказаць, што ў плане работы Вярхоўнага Савета мы сутыкаемся цяпер з пэўнымі цяжкасцямі. Я абяцаў паставіць пытанне аб рэарганізацыі Вярхоўнага Савета. Такія дакументы вы атрымаеце.Есць шэраг падыходаў, якія дазваляюць лічыць, што трэба гэту рэарганізацыю правесці. Напрыклад, тое, што наш Вярхоўны Савет і Прэзідыум Вярхоўнага Савета занадта вялікія. Дынамічна працаваць у такіх структурах цяжка. Недынамічнасць нашага Вярхоўнага Савета не дазваляе аператыўна прымаць заканадаўчыя акты, а яны цяпер неабходны.

За рэарганізацыю гэтага Вярхоўнага Савета і тое, што мы набылі пэўны вопыт работы і павінны гэты вопыт выкарыстаць. Перш за ўсё праца нашага Вярхоўнага Савета ў тым стане, у якім ён знаходзіцца апошні час, я б сказаў, пасляпутчавы час, паказала, што мы ў стане прымаць добрыя рашэнні, добрыя пастановы і добрыя законы.

Далей. Цяпер нельга мяняць коней на пераправе, таму што трэба працаваць і рабіць перыяд на абранне новага Вярхоўнага Савета, як

гэтага патрабуюць некаторыя дэпутаты і некаторыя палітычныя плыні, мне здаецца, не зусім сур'ёзна. Я прыхільнік такога канстытуцыйнага працэсу, і калі ўзнікне гэта пытанне, то гэта пасля прыняцця новай Канстытуцыі і пасля прыняцця новага закона аб выбарах. Я думаю, што над гэтымі пазіцыямі мы павінны працаваць.

У нас сёння не простае пытанне, як быць з народнымі дэпутатамі СССР, лёс якіх мы пэўным чынам вырашылі на мінулай нашай сесіі. Гэта пераважна таленавітыя, працавітыя і вельмі вопытныя людзі, і наш абавязак выкарыстаць іх талент, іх працавітасць, іх розум на карысць Рэспублікі Беларусь. Я думаю, што мы абмяняемся думкамі з гэтай нагоды і знойдзем дакладнае, карэктнае рашэнне.

Я б вельмі хацеў, каб з боку народных дэпутатаў, з боку розных палітычных плыняў, якія ёсць у нас у Вярхоўным Савеце, паступілі канкрэтныя прапановы па кандыдатуры Першага намесніка старшыні Вярхоўнага Савета. Да гэтага часу я не магу ўнесці на ваш разгляд новыя кандыдатуры па шэрагу пытанняў. Як толькі пачынае абмяркоўвацца гэта кандыдатура, я альбо атрымоўваю звесткі, што вельмі малыя шансы на абранне першага намесніка, альбо чалавек не хоча ісці на гэту работу. Я прасіў бы на працягу першых дзён сесіі... Я буду станоўча ставіцца да любых прапаноў, накіраваных на тое, каб першы намеснік быў, і хачу вам сказаць наступнае. Працаваць цяпер кіраўніцтву Вярхоўнага Савета без першага намесніка вельмі цяжка. Я абавязан спалучаць у сабе функцыі спікера Вярхоўнага Савета, гэта значыць чалавека, які павінен выслухаць усе прапановы і быць індэферэнтным, -- ён павінен ускрыць усё тое, што адбываецца ў Вярхоўным Савеце. З другога боку, як вышэйшая службовая асоба Рэспублікі Беларусь я абавязаны выказаць сваю думку, абавязаны ўдзельнічаць у прыёме вялікай колькасці зарубежных, службовых асоб найвышэйшага рангу, якія цяпер цікавяцца работай у Беларусі, весці перагаворы. Спалучаць гэта даволі-такі цяжка. І пытанне аб першым намесніку пакуль што без дапамогі Вярхоўнага Савета, без кансультацый з палітычнымі плынямі я вырашыць фактычна не ў стане. Вельмі прашу вашай дапамогі. Мы павінны гэта пытанне вырашыць як мага хутчэй.

Паважаныя народныя дэпутаты! Адно з найцяжэйшых пытанняў, якія мы павінны вырашыць, -- гэта пытанне аб бюджэце. Далей адкладваць яго немагчыма. Але сітуацыя надзвычай складаная. Справа ў тым, што невядома, як фінансаваць праблемы Чарнобыля. Невядома, якія будуць



цэны на свабодным рынку. Невядома, якім рабіць дэфіцыт бюджэту, таму што калі рэспублікі Сярэдняй Азіі, з якімі мы хочам быць у адной супольнасці, будуць планаваць, напрыклад, 30-працэнтны дэфіцыт бюджэту, а мы ў адпаведнасці з пагадненнем з Расіяй і Украінай вызначылі не больш чым 6 працэнтаў дэфіцыту бюджэту, мы будзем піліць сук пад сабой. Таму аднесціся да фармавання бюджэту трэба з усёй сур'ёзнасцю і, магчыма, заключнае слова сказаць аб гэтым у самым канцы сесіі, таму што ў нас будуць яшчэ на працягу гэтай сесіі кансультацыі з усімі былымі суб'ектамі былога Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік. І я думаю, што пазіцыя тут павінна быць узгодненая.

Зрабіўшы гэтыя заўвагі, выказаўшы такім чынам свой неспакой па асноўных пазіцыях, я хачу прапанаваць перайсці да пытанняў, якія прапануецца разгледзець на гэтай сесіі, перайсці да арганізацыйных пытанняў па рабоце сесіі.

Паважаныя народныя дэпутаты! Слова па пытанню выбрання сакратарыята сесіі прадастаўляецца народнаму дэпутату, намесніку Старшыні Вярхоўнага Савета Шаладонаву Васілю Іванавічу.

Шаладонаў В.І. (Цэрахоўская выбарчая акруга № 206, Гомельская вобласць). Паважаныя народныя дэпутаты! Праект Пастановы аб сакратарыяце сесіі вам раздадзены. Прапануецца кіраўніком сакратарыята абраць Самусевіч Раісу Міхайлаўну, намеснікам кіраўніка сакратарыята Марыніча Міхаіла Афанасьевіча. Члены сакратарыята ў вас запісаны ў праекце пастановы.

Старшыня. Ці ёсць заўвагі, прапановы? Ёсць прапанова пагадзіцца са складам сакратарыята і яго старшынёй. Хто за гэту прапанову, прашу галасаваць. Хто супраць? Хто ўстрымаўся?

Вынікі галасавання:

| | |
|---|---|
| Кворум для галасавання | 232 |
| Кворум для прыняцця рашэння | 174 |
| Зарэгістравана | 265 |
| Прагаласавала "за" | 231 |
| Прагаласавала "супраць" | 4 |
| Устрымалася | 1 |
| Усяго прагаласавала | 236 |
| Не галасавала | 29 |

Рашэнне прынята.

Шаладонаў В.І. Паважаныя народныя дэпутаты, вам раздадзены праект пастановы аб дэпутацкай камісіі для кантролю сістэмы галасавання на нечарговай восьмай сесіі. Прапануецца старшынёй камісіі абраць Штокіна Аляксандра Мікалаевіча і членамі камісіі Драбышэўскага Пятра Іванавіча і Лобача Мікалая Іванавіча.

Старшыня. Ці ёсць заўвагі, іншыя прапановы? Няма. Хто за гэту прапанову, прашу галасаваць. Хто супраць? Хто ўстрымаўся?

Вынікі галасавання:

| | |
|---|---|
| Кворум для галасавання | 232 |
| Кворум для прыняцця рашэння | 174 |
| Зарэгістравана | 265 |
| Прагаласавала "за" | 226 |
| Прагаласавала "супраць" | 2 |
| Устрымалася | 0 |
| Усяго прагаласавала | 228 |
| Не галасавала | 37 |

Рашэнне прынята.

Цяпер пераходзім да пытання аб парадку асвятлення работы сесіі сродкамі масавай інфармацыі. Слова па гэтаму пытанню даецца старшыні Камісіі па пытаннях галоснасці, сродкаў масавай інфармацыі і правоў чалавека Каратчэні Івану Міхайлавічу.

Каратчэня І.М. (Вілейская сельская выбарчая акруга № 57, Мінская вобласць). Паважаныя народныя дэпутаты! Проект постановлени имеется у вас на руках. Каких-то письменных или других предложений по данному проекту не поступило.

Старшыня. Першы мікрафон, калі ласка.

Трусаў А.А. (Мірашнічэнкаўская выбарчая акруга № 33, г.Мінск). Паважаныя народныя дэпутаты! У мяне ёсць канкрэтная прапанова, каб па радыё транслíраваліся тыя пункты, якія датычацца ўсіх законаў аб падатках. Падаткі -- гэта лёс кожнага грамадзяніна Рэспублікі Беларусь. Таму я прапаную: пра ўсё, што датычыцца падаткаў, каб была поўная трансляцыя па радыё і адпаведна вечарам запіс па тэлебачанні.

Старшыня. Калі ласка, другі мікрафон.

Германчук І.І. (Бараўлянская выбарчая акруга № 71, Мінская



вобласць). Справа ў тым, што спадар Каратчэня ўносіць праект ад Вярхоўнага Савета. А напісана, што ён унесены камісіяй Вярхоўнага Савета.

Каратчэня І.М. Комиссия вносила на Президиум Верховного Совета. Вчера на Президиуме никаких замечаний не поступило.

Германчук І.І. Фактычна гэта праект старшыні камісіі. У сувязі з гэтым апазіцыя ўносіць свой праект пастановы аб утварэнні рэдакцыйнай камісіі па парадку асвятлення сродкамі масавай інфармацыі работы сесіі. Калі мы пазнаёміліся з прапанаваным праектам, нас не задаволіў склад камісіі па той прычыне, што зноў жа гэта будзе непрацаздольная камісія, якая сфармавана па няведама якому прынцыпу.

Мы ўзялі іншы падыход: узялі людзей, зацікаўленых у аб'ектыўным і поўным асвятленні работы сесіі сродкамі масавай інфармацыі. Прапануем наступны склад камісіі: Навумчык, Маркевіч, Галубовіч, Голубеў, Герасюк. Пяць дэпутатаў. Гэта, за выключэннем аднаго чалавека, прафесійныя журналісты, людзі зацікаўленыя. У другім пункце ў нас фактычна адрозніваецца толькі адна пазіцыя ад той, якую прапануе спадар Каратчэня. Гэта каб весці прамую радыётрансляцыю з усіх пасяджэнняў. Надзвычай важныя ўсе пытанні, якія ўнесены ў павестку дня гэтай сесіі і будуць абмяркоўвацца. Усе дэпутаты зацікаўлены, каб нашы выбаршчыкі мелі поўную інфармацыю хаця б па радыё. Ва ўсім астатнім праект не мае адрознення. Таму прашу паставіць прапанову апазіцыі на галасаванне.

Старшыня. Першы мікрафон.

Голубеў В.Ф. (Алібегаўская выбарчая акруга № 15, г.Мінск). Я хацеў спытацца ў шаноўнага спадара Каратчэні. Ён кожны раз уносіць вось такія прапановы. Адзін раз я быў у складзе такой камісіі і спрабаваў як чарговы яе член арганізаваць працу. Я хачу спытацца ў дэпутата Каратчэні: як арганізуецца праца вось гэтай групы, які ўдзел тут прымае камісія па галоснасці і асабліва шаноўны спадар старшыня? Хачу засведчыць перад Вярхоўным Саветам, што ў тых пытаннях, калі былі цяжкасці з асвятленнем сесіі, калі ставілася пытанне, каб назаўтра штосьці трэба было асвятліць і патрабавалася дапамога камісіі, шаноўны спадар старшыня гэтаму не спрыяў.

Каратчэня І.М. По поводу предложения Трусова. Внимательно

прочтите четвертый пункт: поручить Редакционной комиссии (которая не утверждена пока, дело Верховного Совета, на ком остановиться) совместно с коллегией Гостелерадио Республики Беларусь в необходимых случаях вносить предложения об изменении порядка освещения средствами массовой информации работы внеочередной восьмой сессии Верховного Совета. Пожалуйста, ставьте на голосование. Комиссия вносит предложение, и никаких вопросов нет. Что касается замечаний в отношении комплектации Редакционной комиссии. Уважаемые народные депутаты! Мы вошли с предложением в каждую комиссию, и они назвали все кандидатуры, которые здесь стоят. Роль нашей комиссии свелась только к тому, чтобы учесть предложения комиссий и внести предложение в Президиум.

Старшыня. Другі мікрафон.

Станкевіч У.М. (Мядзельская выбарчая акруга № 78, Мінская вобласць). Уважаемые народные депутаты! До прошлой сессии я как-то меньше всего обращал внимание на формирование комиссии и на ее роль. Мне казалось, что ее роль незначительна. Но после прошлой сессии, когда посыпались звонки, т.е. после того, когда на трибуне оказался один из депутатов с обвинением Председателя Верховного Совета в превышении своих полномочий, я выступил, держа закон в руках, оппонентом по этому обвинению. И, по-моему, всем логически доказал, что обвинение несостоятельно. Однако после этого посыпались звонки и все начали говорить: как же так, почему Председатель Верховного Совета превысил свои полномочия при подписании нам известного соглашения? А все дело в том, что средства массовой информации дали выступление депутата, доктора юридических наук, который обвинил председателя и этому все поверили, а выступления оппонента не дали. Я еще раз хочу сказать, что не претендую на роль какой-то телезвезды. Однако в чем роль Редакционной комиссии? Если уж освещать проблему с одной точки зрения, то обязательно надо показывать и роль оппонирующей стороны. Это будет объективно. Если бы так было, то всем бы стало ясно, что это умышленное обвинение Председателя Верховного Совета. После этого я убедился, что роль этой комиссии немаловажная и подходить к ее формированию надо серьезно.

Старшыня. Пяты мікрафон, калі ласка.

Лукашэнка А.Р. (Шклоўская выбарчая акруга № 310, Магілёўская



вобласць). Уважаемые члены Верховного Совета! У нас пока еще есть Регламент, согласно которому все предложения вносятся в письменном виде и голосуются. Сегодня у нас на руках есть один проект, по которому, на мой взгляд, мы всегда работали. Его надо ставить на голосование. Но я не исключаю возможность голосовать и за второй проект. И по комиссиям нам не надо разводить дебаты. Действительно, обстановка критическая и надо заниматься экономическими проблемами. Вы заявляете, что люди должны знать о том, что мы тут решили. Так давайте напечатаем, скажем, по телевидению, радио о том, что мы решили.

Второе. Вопросы налогообложения. Это очень серьезные и важные вопросы. Я вам должен сказать прямо: если мы не готовы на сегодняшний день по этим вопросам (а я лично слабо готов к этой сессии по данным вопросам, поскольку только получил эти законопроекты), то наша вся работа должна идти прежде всего в комиссиях, и не должны мы показывать людям, что не подготовлены мы к этой сессии по вине определенных людей, которые должны были это сделать. Не надо сегодня показывать людям нашу неподготовленность, нашу некомпетентность в этих вопросах. Это не те вопросы, чтобы их так вот обсуждать.

Я согласен с ходом предложенной Президиумом работы сессии. Мы действительно должны собраться и проработать основной вопрос в комиссиях. Я предлагаю проголосовать за проект, который предложен комиссией, и поставить на этом точку.

Старшыня. Апошняе выступленне. Першы мікрафон.

Трусаў А.А. Я хацеў бы запярэчыць шаноўнаму спадару Лукашэнку, які тут так палымяна выступаў.

Справа ў тым, што ўсе гэтыя дакументы мы атрымалі толькі сёння раніцай і ў нас не было магчымасці пісьмова ўнесці нешта іншае.

Па-другое, я хацеў бы сказаць, што калі спадар Каратчэня гаворыць "мы", трэба казаць, хто такія "мы". Раней "мы" гаварыў толькі Мікалай II (апошні самадзержац Расіі). У нашу камісію ніякіх рэдакцыйных прапаноў не паступала, і я не сумняваюся, каб такія прапановы былі, то мы б кандыдатуры назвалі. Дзякую за ўвагу.

Старшыня. Я думаю, што можам вырашыць галасаваннем лёс такога

падыходу.

Паважаныя народныя дэпутаты! Фактычна ёсць адна заўвага па пункту другому. Па пункту першаму -- гэта склад камісіі (я думаю, што мы гэта асобна прагаласуем), а па другому пункту ўнесці такую папраўку: весці радыётрансляцыю ўвесь час. Давайце падзелімся. Першае, што прапанавана. Другі пункт, так як быў прапанаваны, другая прапанова -- весці трансляцыю ўвесь час, трэцяя -- весці па радыё трансляцыю пытанняў, якія тычацца падаткаў. Так? Я думаю, што мы вырашым лёс другога пункта галасаваннем папраўка.

Хто за тое, каб весці непасрэдную трансляцыю па радыё ўсіх нашых пасяджэнняў, прашу галасаваць. Хто супраць? Хто ўстрымаўся?

Вынікі галасавання:

| | |
|---|---|
| Кворум для галасавання | 232 |
| Кворум для прыняцця рашэння | 174 |
| Зарэгістравана | 265 |
| Прагаласавала "за" | 83 |
| Прагаласавала "супраць" | 75 |
| Устрымалася | 24 |
| Усяго прагаласавала | 182 |
| Не галасавала | 83 |

Рашэнне не прынята.

Папраўка не прымаецца. Цяпер хто за тое, каб па радыё весці трансляцыю пытанняў, якія датычацца падаткаў, прашу галасаваць. Хто супраць? Хто ўстрымаўся?

Вынікі галасавання:

| | |
|---|---|
| Кворум для галасавання | 232 |
| Кворум для прыняцця рашэння | 174 |
| Зарэгістравана | 265 |
| Прагаласавала "за" | 114 |
| Прагаласавала "супраць" | 32 |
| Устрымалася | 26 |
| Усяго прагаласавала | 172 |
| Не галасавала | 93 |

Рашэнне не прынята.

Прапанова не прымаецца. Хто за тое, к[illegible], прапанаваную Прэзідыумам, але без складу камісіі (склад камісіі мы



асобна прагаласуем), прашу галасаваць. Хто супраць? Хто ўстрымаўся?

Вынікі галасавання:

| | |
|---|---|
| Кворум для галасавання | 232 |
| Кворум для прыняцця рашэння | 174 |
| Зарэгістравана | 265 |
| Прагаласавала "за" | 193 |
| Прагаласавала "супраць" | 16 |
| Устрымалася | 9 |
| Усяго прагаласавала | 218 |
| Не галасавала | 47 |

Рашэнне прынята.

Калі ласка, Іван Міхайлавіч.

Каратчэня І.М. Товарищи, вносится такое предложение: включить в состав редакционной комиссии и тех, кого предлагал Герменчук, и тех, кто предлагается Президиумом Верховного Совета.

Старшыня. Шаноўныя народныя дэпутаты! Есць такая прапанова. Камісію зрабіць у складзе, што прапанаваў Прэзідыум і што прапанаваў народны дэпутат Гермянчук ад імя апазіцыі. Можна разам? Згода. Мне здаецца, што мы зацікаўлены ў тым, каб была добрая работа. Прафесіяналаў дабавілі пяць чалавек. Яны згодны працаваць, мы вітаем гэта.

Хто за тое, каб абраць рэдакцыйную камісію ў наступным складзе: Герасімаў, Гушаль, Данілевіч, Кулажанка, Малахоўскі, Мардашоў, Сярдзюк, Сарокін. Прашу галасаваць. Хто супраць? Хто ўстрымаўся?

Вынікі галасавання:

| | |
|---|---|
| Кворум для галасавання | 232 |
| Кворум для прыняцця рашэння | 174 |
| Зарэгістравана | 265 |
| Прагаласавала "за" | 173 |
| Прагаласавала "супраць" | 29 |
| Устрымалася | 12 |
| Усяго прагаласавала | 214 |
| Не галасавала | 51 |

Рашэнне не прынята.

Цяпер хто за тое, каб абраць рэдакцыйную камісію ў наступным складзе: Навумчык, Маркевіч, Галубовіч, Голубеў, Герасюк, прашу галасаваць. Хто супраць? Хто ўстрымаўся?

| | |
|---|---|
| Вынікі галасавання: | |
| Кворум для галасавання | 232 |
| Кворум для прыняцця рашэння | 174 |
| Зарэгістравана | 265 |
| Прагаласавала "за" | 77 |
| Прагаласавала "супраць" | 33 |
| Устрымалася | 28 |
| Усяго прагаласавала | 138 |
| Не галасавала | 127 |
| Рашэнне не прынята. | |

Я прапаную, давайце да згоды прыйдзем: аб'яднаную камісію абярэм. Хто за тое, каб абраць камісію ў складзе пералічаных і першых дэпутатаў, і другіх, прашу галасаваць. Хто супраць? Хто ўстрымаўся?

| | |
|---|---|
| Вынікі галасавання: | |
| Кворум для галасавання | 232 |
| Кворум для прыняцця рашэння | 174 |
| Зарэгістравана | 273 |
| Прагаласавала "за" | 190 |
| Прагаласавала "супраць" | 2 |
| Устрымалася | 8 |
| Усяго прагаласавала | 200 |
| Не галасавала | 73 |
| Рашэнне прынята. | |

Пастанова прымаецца, склад камісіі зацверджаны. Пераходзім да вырашэння пытання аб зацвярджэнні павесткі дня работы сесіі. Слова мае Намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Шаладонаў Васілій Іванавіч.

Шаладонаў В.І. Паважаныя народныя дэпутаты! Учора засядаў Прэзідыум Вярхоўнага Савета. Мы доўга абмяркоўвалі. Ёсць вельмі багата законапраектаў, якія патрэбна прымаць. Але мы вырашылі ўнесці на разгляд сесіі тры блокі асноўных праектаў законаў. Гэта праекты законаў: аб падатках, аб рэформе Вярхоўнага Савета і аб плане і бюджэце. Мы думаем, што гэтыя пытанні вельмі наспелі і іх



трэба вырашаць тэрмінова. І таму прапаноўваецца для вас праект прапановы з павесткай дня сесіі. Вам усім раздадзены праект. Я думаю, што будуць яшчэ і дапаўненні. Але, думаю, што гэты праект трэба ўзяць за аснову, а потым галасаваць за кожны пункт праекта павесткі дня.

Старшыня. Ёсць прапанова гэтыя пункты шляхам галасавання вызначыць: што будзе ўключана, што не будзе ўключана. Такая прапанова Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. Калі ласка, першы мікрафон.

Голубеў В.Ф. Скажыце, калі ласка, ці разглядаў Прэзідыум прапановы апазіцыі?

Шаладонаў В.І. Я павінен сказаць, што нікога не было ад апазіцыі і на Прэзідыуме гэтыя прапановы не абмяркоўваліся.

Голубеў В.Ф. Тады яшчэ адно пытанне: а пісьмовыя прапановы апазіцыі былі?

Шаладонаў В.І. Пісьмовых прапаноў у Прэзідыум не ўносілася.

Голубеў В.Ф. Яны ўносяцца не ў Прэзідыум, яны ўносяцца на сесію, шаноўны Васілій Іванавіч.

Шаладонаў В.І. Я і сказаў, што будуць іншыя прапановы, трэба абмяркоўваць...

Голубеў В.І. Калі яны ўносіліся на сесію, якое меў права Прэзідыум іх не разгледзець?

Шаладонаў В.І. У Прэзідыум пісьмова прапановы не паступалі.

Старшыня. Калі ласка, першы мікрафон.

Грыбанаў У.М. (Куляшоўская выбарчая акруга № 7, г.Мінск). Уважаемый Василий Иванович! Скажите, пожалуйста, зачем включен в проект повестки дня пятый пункт?

Шаладонаў В.І. Я думаю такім чынам. У вас на руках праект пастановы па гэтаму пытанню. Да нас раней звяртаўся Прэзідэнт, публікавалася ў друку. Мы так вырашылі, што патрэбна Вярхоўнаму Савету выказаць свае адносіны. Што не прымаецца гэты праект, які Прэзідэнт прапанаваў нам, і больш нічога мы не будзем абмяркоўваць.

Мы так палічылі. Мы хацелі, каб гэта было цывілізавана.

Старшыня. Другі мікрафон, калі ласка.

Сапронаў У.А. (Салігорская-Ленінская выбарчая акруга № 89, Мінская вобласць). Уважаемый Василий Иванович! На прошедшей сессии мы приняли постановление "О некоторых мерах, вытекающих из экономического положения республики". В этом Постановлении было два поручения. Первое: Президиуму Верховного Совета проинформировать Верховный Совет о конкретных мерах, принимаемых по этому Постановлению, и второе поручение -- о внесении законопроекта на ограничение предпринимательской деятельности органами государственного управления, контроля и надзора.

Рассматривал ли Президиум Верховного Совета эти поручения? Почему они не выполнены и не внесены в повестку дня?

Шаладонаў В.І. Старшыні камісій не ўносілі такіх прапаноў, і ў Прэзідыуме яны не абмяркоўваліся. Я думаю, што калі будзе падрыхтавана камісіяй Козіка, то будзе ўнесена і будзем абмяркоўваць.

Старшыня. Трэці мікрафон, калі ласка.

Навумчык С.І. (Віцебская-Чыгуначная выбарчая акруга № 181). Паважаны Васіль Іванавіч! Калі вы адказвалі на пытанне дэпутата Голубева, што прапановы апазіцыі не паступалі, то, думаю, вы проста былі альбо ўведзены ў зман, альбо недастаткова праінфармаваны сваімі рэфе; нтамі. Бо не далей як учора мы разам з Пазьняком знайшлі ў канцылярыі ліст, падпісаны Станіславам Станіслававічам Шушкевічам, дзе пытанне аб Кантрольнай палаце пры Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь, якое ўносіла апазіцыя, было адпраулена на разгляд у камісіі. І я думаю, што часу было досыць, каб вынесці яго і на Прэзідыум і цяпер на сесію. Так што мы аднаўляем гэтае пытанне павесткі дня.

Шаладонаў В.І. Добра. Я думаю, што ў нас і камісія працавала над пытаннем па Кантрольнай палаце. Праекты ёсць, але камісія не ўносіла. Тут я нічога не магу сказаць.

Старшыня. Дзякую. Першы мікрафон, калі ласка.

Трусаў А.А. (Мірашнічэнкаўская выбарчая акруга № 33, г.Мінск).



Паважаныя калегі! Я прапаную ўнесці дадаткова ў павестку дня наступныя пытанні. У мяне ёсць, акрамя тых прапаноў апазіцыі, якія я цалкам падтрымліваю, ад свайго імя і ад імя Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады тры прапановы для павесткі дня.

Прапанова першая, гэта ад імя нашай камісіі. Я прапаную ўключыць у павестку дня ў першым чытанні законапраект аб ахове і зберажэнні гісторыка-культурнай спадчыны. Справа ў тым, што было рашэнне Прэзідыума ў маі, каб гэты закон разгледзець яшчэ на мінулай сесіі. Але па віне Саўміна ён не быў канчаткова афармлены. Зараз у мяне на руках усе дакументы. Саўмін унёс гэты закон. Усё гатова, ён раздрукаваны, і ў першым чытанні мы яго свабодна можам прыняць. Таму што наша гісторыка-культурная спадчына знаходзіцца проста ў трагічнай сітуацыі. У любы момант мы можам раздаць законапраект для разгляду ў першым чытанні.

Я прапаную таксама ўнесці ў павестку дня наступны праект пастановы: "О мерах, связанных...". Гэта што датычыцца лёсу былых народных дэпутатаў СССР. Я лічу, што трэба такую пастанову ў павестку дня ўнесці, тым больш што ёсць рашэнне нашай папярэдняй сесіі.

І трэцяе. Ад імя Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады я ўношу наступную прапанову ў павестку дня: аб стварэнні марскога міністэрства Рэспублікі Беларусь.

Старшыня. Гэта структуры Урада...

Трусаў А.А. ...Аб стварэнні марскога міністэрства Рэспублікі Беларусь па справах рыбалоўнага і гандлёвага флоту, паколькі зараз, пасля падпісання пагаднення, Беларусь застанецца цалкам без мора і без усіх рэчаў, звязаных з ім.

Старшыня. Калі ласка, другі мікрафон.

Пазьняк З.С. (Ангарская выбарчая акруга № 9, г.Мінск). Ад апазіцыі. Шаноўныя народныя дэпутаты! Дазвольце мне ўнесці дзевяць пунктаў ад апазіцыі Народнага фронту.

Па-першае, павінен сказаць, што я падтрымліваю прапанову дэпутата Трусава аб унясенні ў парадак дня пытання аб разглядзе статуса былых дэпутатаў СССР.

Па-другое, я прапаную ўнесці ў парадак дня пункт аб праекце закона пра выбары ў Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь. Такі праект закона апазіцыяй падрыхтаваны і размножаны.

Аб канстытуцыйнай рэформе -- другі пункт. Аб канстытуцыйнай рэформе працы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. Гэты пакет дакументаў распрацаваны, унесены і зараз размножаны, і просьба гэты пункт таксама засведчыць у павестцы дня.

Трэці пункт. Я прапаную ад імя апазіцыі ўнесці аб стварэнні ўзброеных сілаў Рэспублікі Беларусь і вайсковых пытаннях пакет дакументаў. Гэта ў рэчышчы пастаноўкі той праблемы, якую ў пачатку сесіі паставіў Станіслаў Станіслававіч Шушкевіч, гаворачы аб тым, што мы перажываем крытычны час. Сапраўды, вайсковыя пытанні ў нас да канца не вырашаныя, і застаўся шэраг пытанняў, якія Вярхоўны Савет павінен вырашыць. Яны адлюстраваны ў тых пакетах дакументаў, якія мы прадставілі.

Прапаную ўнесці наступны пункт, чацвёрты: аб забароне палітычных арганізацыяў, структураў і групаў, якія грунтуюцца на антычалавечых поглядах і вучэннях. Маецца на ўвазе, што ў апошні час узнікае шмат арганізацый, груп, якія ставяць пытанне такім чынам, каб дасягнуць сваіх палітычных мэт шляхам насілля, у тым ліку грунтуюцца на антычалавечых вучэннях аб класавай нянавісці, дыктатуры пралетарыяту і іншых. Паколькі ў нас няма закона аб партыях, нам неабходна зараз прыняць пастанову па гэтых палітычных групах.

І адначасна я прапаную ўнесці яшчэ адзін пункт, блізкі да гэтай прапановы, якую я выказаў: аб замежных і антыканстытуцыйных палітычных арганізацыях на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь. Маецца на ўвазе тое, што ў многіх рэспубліках былога Саюза ўзнікла шмат арганізацыяў адкрыта антыканстытуцыйнага толку, якія адкрыта заклікаюць да насілля. Гэтыя арганізацыі ствараюць свае філіі ў іншых рэспубліках, у тым ліку і ў нашай рэспубліцы. Яны робяць правакацыйныя ваяжы. Напрыклад, правакацыйны вояж Траўкіна ў Малдову, у Прыднястроўскую Рэспубліку так званую, які, як вы ведаеце, некалькі дзён назад закончыўся крывавым сутыкненнем. Мы павінны запабегчы візітам такіх правакатараў і прыняць адпаведнае заканадаўства ў рэспубліцы. Таму я прапаную і такую пастанову, праект якой размножаны.



Прапаную ўнесці яшчэ такі пункт аб унясенні змяненняў у Канстытуцыйны Закон -- "Дэкларацыю Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь аб дзяржаўным суверэнітэце Рэспублікі Беларусь". Маецца на ўвазе зняць другую частку артыкула 11 пасля таго, як было ратыфікавана пагадненне аб Садружнасці Суверэнных Дзяржаў.

Наступны пункт я прапаную -- аб Кантрольнай палаце пры Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь. Гэты дакумент намі падрыхтаваны і аддадзены на размнажэнне.

І апошняя прапанова -- аб фінансаванні навукова-даследчых інстытутаў Акадэміі навук Рэспублікі Беларусь і вышэйшых навучальных устаноў рэспублікі. Справа ў тым, што зараз склалася такая сітуацыя, што мы можам згубіць сваю фундаментальную навуку. Раней, калі існаваў Савецкі Саюз, 50 працэнтаў усіх адлічэнняў ішло праз Саюз, праз цэнтральныя органы. Цяпер гэтых 50 працэнтаў бюджэтных сродкаў няма, і мы ставім пытанне такім чынам, каб фінансаваць нашу фундаментальную навуку на тым узроўні, на якім яна фінансавалася ў 1988 годзе. Мы абавязкова такую папраўку павінны прыняць у выніку тых палітычных і эканамічных змен, якія адбыліся ў апошні час. На гэтым прапановы ўсе. Дзякуй за ўвагу.

<u>Старшыня.</u> Трэці мікрафон, калі ласка.

<u>Трафіменка В.С.</u> (Суражская выбарчая акруга № 146, Віцебская вобласць). Уважаемые народные депутаты! Учитывая, что у нас сессия внеочередная, а сейчас вносятся десятки новых вопросов, совершенно неподготовленных, то возникает вопрос: какая необходимость из очередной сессии внеочередную делать? Предлагаю рассмотреть на этой сессии пакет вопросов, связанных с налогообложением, с планом, с бюджетом, о содружестве и, может быть, несколько небольших вопросов, вытекающих из решений прошлой сессии. И на этом закончить сессию. Все остальные вносимые вопросы должны быть подготовлены, внесены на очередную сессию и рассматриваться в законном порядке. Сейчас идет опять навязывание вопросов, которые не готовы к рассмотрению. И еще планируем транслировать, позориться на всю республику.

<u>Старшыня.</u> Дзякуй. Чацвёрты мікрафон, калі ласка.

<u>Качан М.А.</u> (Беларуская рэспубліканская арганізацыя ветэранаў вайны і працы). Уважаемые народные депутаты! Уважаемый президиум! В

республике сложилась очень сложная ситуация. Идет расслоение на богатых и бедных. Полки пустые. А мы начинаем все новые и новые наверстывать вопросы. Вношу предложение: решить только экономические вопросы, которые не терпят отлагательства.

Старшыня. Калі ласка, уключыце дадатковы мікрафон у прэзідыуме.

Капытоў М.Е. (Магілёўская-Арлоўская выбарчая акруга № 274). Уважаемые народные депутаты! Я бы просил вас в пакете законов о налогообложении и о плане и бюджете рассмотреть закон о дорожных фондах Республики Беларусь. Этот вопрос вчера рассмотрен на Президиуме Совета Министров и нашел поддержку. Просил бы рассмотреть этот закон о дорожных фондах Республики Беларусь. Важность его вы представляете и, думаю, знаете.

Старшыня. Дзякую. Першы мікрафон, калі ласка.

Бадзей Г.П. (Старшыня Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па працы і сацыяльнай абароне насельніцтва). Паважаныя народныя дэпутаты! Правительство разработало и намерено последовательно осуществлять систему мер по социальной защите населения в связи с либерализацией цен. Узловое место в этой системе мер занимает закон о минимальной заработной плате и государственных гарантиях в области оплаты труда. Правительство просит включить этот проект закона в повестку дня сессии, так как показатель минимальной заработной платы -- это тот показатель, к которому привязываются не только оплата труда, но и буквально все социальные выплаты.

У вас есть на руках только постановление о самом размере, а вот к чему привязывать этот размер -- это и заложено в проекте закона. Поэтому надо рассматривать и постановление, и закон одновременно.

Старшыня. Дзякую. Другі мікрафон.

Слабчанка С.І. (Баранавіцкая-Кастрычніцкая выбарчая акруга № 111, Брэсцкая вобласць). Я прошу предусмотреть в повестке дня этой сессии одно закрытое заседание, чтобы определиться по вопросу...

Старшыня. Гэта іншае пытанне, гэта па парадку работы...



Слабчанка С.І. Это в повестку дня. Я же предлагаю в повестку дня вопрос.

Старшыня. Па парадку работы сесіі, а гэта ўжо як будзем працаваць.

Слабчанка С.І. Я вопрос вношу и сразу комментирую, что это должно быть закрытое заседание. Ситуация, которая сложится в январе, заключается в следующем. В несколько раз возрастут цены и заработная плата. На сегодняшний день уже не хватает бумажной денежной массы. У нас нечем будет выдавать зарплату людям. Поэтому этот вопрос необходимо рассмотреть и обязательно провести закрытое заседание.

Старшыня. Я думаю, што гэта ўключаецца ў тыя пытанні, якія ўжо ёсць, аўтаматычна. Трэці мікрафон, калі ласка.

Баршчэўскі Л.П. (Наваполацкая-Маладзёжная выбарчая акруга № 174, Віцебская вобласць). Апазіцыя народнага фронту. Я хацеў бы звярнуць увагу, падтрымліваючы мінулыя прапановы, унесеныя апазіцыяй і Бадзеем. Хацеў бы звярнуць увагу, што пытанне аб Кантрольнай палаце, якую мы прапаноўваем, звязана з пытаннем аб бюджэце і там жа прадугледжваецца пастанова аб тым, каб даць даручэнне стварыць органы дзяржаўнага кантролю ў Рэспубліцы Беларусь. Без кантролю гэты бюджэт акажацца, тым больш пры цяперашніх абставінах, калі лічбы будуць мяняцца. Прапаную прагаласаваць за гэту нашу прапанову.

Старшыня. Шаноўныя народныя дэпутаты! Перад тым, як Васілію Іванавічу даць слова, я хацеў бы выказаць сваю думку. Я рашуча падтрымліваю прапанову ўключыць пытанне аб Кантрольнай палаце і аб органах кантролю. Інакш нам працаваць будзе цяжка. І я б прасіў Вярхоўны Савет прыняць да разгляду яшчэ невялічкія пытанні. Невялічкія, але яны дакладна падрыхтаваны, з Міністэрствам замежных спраў звязаны. Гэта ратыфікацыя факультатыўнага пратакола па СБСЕ. Каб мы выконвалі правы чалавека, нам трэба гэта зрабіць. Інакш з намі не будуць гаварыць як з цывілізаванай краінай. Гэта нам неабходна. Я вельмі прашу ўключыць гэта пытанне. І другую невялічкую пастанову аб дастаўцы рэйсамі лекаў, грузаў, якія ідуць па лініі дзяржавы і неабходны для ліквідацыі аварыі на Чарнобыльскай атамнай станцыі. Такая пастанова таксама будзе падрыхтавана. Вось у мяне такая невялікая просьба.

Я хачу давесці да вашага ведама, што сёння Савет Міністраў звярнуўся з лістом, датаваным 17 снежня, з просьбай уключыць у павестку дня пытанне аб канцэпцыі таможаннай палітыкі Рэспублікі Беларусь (о проекте Закона Республики Беларусь "О таможенной службе" и "О председателе Государственного таможенного комитета Республики Беларусь"). Я лічу гэта пытанне неадкладным і прасіў бы падтрымаць прапанову Савета Міністраў.

Пяты мікрафон, калі ласка.

Сарокін В.І. (Беларуская рэспубліканская арганізацыя ветэранаў вайны і працы). Станислав Станиславович! У меня к вам большая просьба. На первой сессии Верховного Совета, когда регистрировались, 243 народных депутата попросили, чтобы документы, которые предоставляются на очередные сессии, были на русском языке (не потому, что не знаю белорусский, я его начал учить еще в 1937 году), специфические законы не всегда понятны...

Старшыня. Я думаю, что требование ваше правильное. Мы будем распространять на том и другом языках, потому что речь идет о том, чтобы лучше работать. Я полностью с вами согласен. Если есть здесь недоработки, были же такие случаи, когда на белорусском не было, так что недоработки в обе стороны.

Калі ласка, дзевяты мікрафон.

Унучка Р.І. (Навагрудская сельская выбарчая акруга № 263, Гродзенская вобласць). Я хотел бы депутатам дать пояснение о том, что у нас четыре основных закона. Это закон о налогах, закон на добавленную стоимость, о подоходном налоге с населения и общий закон распечатан на двух языках. И если у кого-либо есть затруднения с белорусским языком, можно взять эти законы на русском языке и над ними работать.

И второй вопрос. Станислав Станиславович! Я прекрасно понимаю, что нам необходим закон о Контрольной палате. Эти документы поступили и в нашу комиссию. Сегодня этот закон направлен для экспертизы в учреждения и организации. Мы не можем сегодня неподготовленным его вносить.

Старшыня. Плохо. Придется работать так, чтобы его внести...

Унучка Р.І. Станислав Станиславович! Мы можем натворить



всевозможных ошибок и потом будем их исправлять на ходу. Нет необходимости сегодня торопиться с этим законом. Мы примем его в январе или в феврале и включим в повестку дня.

Старшыня. Роман Иосифович, позвольте с вами категорически не согласиться, потому что я считаю своим служебным долгом создать сейчас Контрольную комиссию, очень серьезную. Нет у меня гарантии, что мы с вами выполняем свои функции достойным образом.

Унучка Р.І. Станислав Станиславович, я с вами согласен. Но мы сделали одну ошибку, когда ликвидировали народный контроль, сейчас ее поправляем. (Шум у зале).

Старшыня. Калі ласка. Для даведкі я пасля дам слова.

Шаладонаў В.І. Паважаныя народныя дэпутаты! Я выслухаў усе прапановы, якія ўносяць народныя дэпутаты. Трэба праект, які ўносіць прэзідыум, прыняць за аснову, а потым прагаласаваць па кожнаму пункту.

Што датычыцца народных дэпутатаў СССР, то мы дамовіліся ў прэзідыуме, што як толькі камісія Леўчыка ўнясе праект пастановы, мы тут жа ўключаем яго ў павестку дня і разглядаем. Ніякой затрымкі не будзе. Можна зараз уключыць, а можна і потым. Тут у нас ніякага разыходжання няма.

Што датычыцца іншых пытанняў, то я думаю, што ўсе яны заслугоўваюць увагі, але я б сёння падтрымаў пытанне аб Кантрольнай палаце. Гэта ў першым чытанні, і тэкст можна потым дапрацоўваць, выказацца і канцэптуальна такім чынам. Астатнія пытанні я перанёс бы на наступную сесію.

Старшыня. Уключыце пяты мікрафон, потым будзем галасаваць.

Лукашэнка А.Р. Уважаемые члены Верховного Совета! Я очень просил бы вас не отвергать с ходу предложение товарища Копытова. У нас специфическая сессия, посвященная налогам, и то, что он внес предложение о дорожных фондах... Это своеобразный налог. И поверьте, он очень важен, потому что у нас сейчас сложилась сложная ситуация в сельском хозяйстве. Принятый нами Закон о приоритетном развитии села, где записано о том, чтобы мы передали дороги, которые у нас находятся на балансе... (не чуваць) не выполняется. В этой связи мы сможем вернуться и к вопросу, который мы в нашей

республике не выполняем. Поэтому я вас прошу не отвергать этот вопрос.

О Контрольной палате. Это вопрос, товарищи, к месту на этой сессии. Мы сегодня формируем бюджет, внимательно рассматриваем его, и если этот законопроект готов, нам также не следует его отвергать, а следует в первом чтении его рассмотреть. Поэтому я согласен с Василием Ивановичем.

Я поддерживаю товарища Шушкевича в том, что мы должны рассмотреть его небольшие предложения и принять по ним решения, они неотложные. Вместе с этим я бы просил вас, чтобы нам дальше не понижать свой рейтинг в связи с таким кворумом, который у нас сегодня имеется, или, вернее, наличием депутатов в этом зале, снять первый вопрос с обсуждения. Если мы еще поставим на обсуждение вопрос по этим праздникам, то люди откажутся праздновать то, что они празднуют сейчас. Стыдно уже с людьми разговаривать, как будто у нас нет других проблем. Мы празднуем, давайте и дальше будем праздновать так, как мы живем.

И последнее. Я бы очень просил вас, уважаемые народные депутаты, снять сегодня с обсуждения третий вопрос, пункт третий. И это я бы хотел аргументировать. Мы пытаемся реорганизовать Верховный Совет, но нам надо учесть, что беда в сегодняшней работе Верховного Совета начинается с самого руководства Верховного Совета и постоянно работающих здесь депутатов. Надо сначала навести в этой части порядок, а потом уже ломать и перестраивать. Мы уже с 1985 года предпр.:имаем такие попытки в политике, экономике. Давайте не повторять эти ошибки теперь.

Вспомните прошлую сессию в плане аргументации. Если вы внимательно следили, то не забыли, что председатель комиссии буквально два дня, когда мы заканчивали сессию, предлагал законопроект. Выходит, что Станкевич и другие постоянно работающие депутаты друг друга начинают убеждать. Поговорили -- и три законопроекта сняли. Так спрашивается: что, вы не могли собраться здесь под руководством Шушкевича или Шолодонова, договориться и вносить уже согласованную позицию? Для того чтобы реорганизовывать и перестраивать (производственники это знают лучше, чем кто-нибудь), надо так сделать, чтобы эта система, которая существует, выдала все, на что она способна. Надо из нее выжать все. Мы из нее



не попытались, Станислав Станиславович, даже выжать минимум. Из этого Верховного Совета, из этой системы (я это имею в виду). Если бы она начала давать сбои, когда мы из нее выжимали последнее (извините за такие нехорошие слова), мы бы потом что-то меняли. Пока я не вижу необходимости с этой стороны.

Вы, Станислав Станиславович, сказали, что вы за конституционный подход в решении этих вопросов. Я также -- за, как и многие народные депутаты. У нас есть действующая Конституция, давайте по этой Конституции будем и работать.

Последнее, Станислав Станиславович. Чтобы вы не обиделись на меня за неаргументированность (я вижу по вашему поведению), я хотел бы доказать вам еще один факт о том, что мы из этой системы ничего не выжали, и прежде всего тут виновато руководство. Смотрите, мы приняли решение при обсуждении законопроекта о местном самоуправлении и местном хозяйстве, где четко записали -- и я вашему советнику сказал накануне сессии, Булахову, комиссии и Левчику...

<u>Старшыня.</u> Я прашу выступаць па павестцы дня.

<u>Лукашэнка А.Р.</u> ...внести в повестку дня вопрос о порядке избрания председателей местных Советов непосредственно населением. Мы же приняли и свои постановления не выполняем. Почему? Кто в этом виноват? Рано нам сегодня говорить о реорганизации и по другим причинам.

Если будет внесен вопрос, я еще дополнительно о нем скажу, но не нужно нам сегодня возвращаться к его обсуждению и ломать Верховный Совет. Спасибо за внимание.

<u>Старшыня.</u> Паважаныя народныя дэпутаты! Я хацеў бы толькі звярнуць вашу ўвагу на тое, што ў нас сёння зарэгістравалася 256 народных дэпутатаў. Адсутнічаюць 90 чалавек. Які орган можа палюдску працаваць, калі адсутнічае больш чым чацвёртая частка працаўнікоў? Назавіце мне той завод, назавіце мне тое прадпрыемства, той калгас. Вось у гэтым пытанне... А вы гаворыце -- будзем жыць па Канстытуцыі. Правільна. Але трэба ўносіць змены і ў Канстытуцыю, калі такое адбываецца. Як мы можам сёння працаваць? Мы фактычна не можам прымаць ні адзін закон, той, які патрабуе канстытуцыйнай большасці. Таму што з гэтых 90 чалавек (я

пераканаНы) 80 проста без прычын тут адсутнічаюць.

Калі ласка, трэці мікрафон.

Навумчык С.І. Апазіцыя. Шаноўны Станіслаў Станіслававіч! Шаноўныя дэпутаты! Як вядома, трэцім пунктам па павестцы дня прапануецца пытанне аб структуры Вярхоўнага Савета. Аднак нам стала вядома і тое, што апошнімі днямі прынята рашэнне (ці рыхтуецца прыняцце рашэння) аб пераездзе Вярхоўнага Савета ў будынак былога Цэнтральнага Камітэта Кампартыі Беларусі. Як вядома, на мінулай сесіі было прынята рашэнне, каб аддаць усю гэтую партыйную маёмасць дзяржаве.

Я хацеў бы ўдакладніць у вас, Станіслаў Станіслававіч, ці сапраўды такое рашэнне ёсць. На мой погляд, гэта была б вялікая палітычная памылка. Мы лічым, што гэтыя памяшканні павінны быць перададзены найперш сферы культуры, ахове здароўя. У тым будынку магла б размясціцца дзяржаўная бібліятэка. Калі такога рашэння няма, то яго няма, калі ж яно ёсць, выбачайце, тады я прапаную паставіць яго тут галосна, адкрыта на павестку дня і прагаласаваць паіменна.

Старшыня. Шаноўны дэпутат Сяргей Навумчык! Гэта не пытанне, якое трэба вырашаць Вярхоўным Саветам. Пытанне забеспячэння работы Вярхоўнага Савета -- пытанне Старшыні, Прэзідыума і Сакратарыята. І дазвольце нам ствараць умовы для таго, каб Вярхоўны Савет працаваў так, як ён павінен працаваць. Калі ж тут ганяюць кожнага дэпутата, калі нельга прыняць наведвальнікаў, калі нельга прыняць пасла замежнай дзяржавы, што гэта за работа, што гэта за Вярхоўны Савет? Вы можаце крытыкаваць. Хачу давесці да вашага ведама, што я падпісаў ліст у Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь з просьбай перадаць усе гэтыя памяшканні, галоўнае -- будынак былога ЦК Кампартыі Беларусі, гасцініцу, гараж і ўсе ўпраўленні, якія забяспечваюць работу, Вярхоўнаму Савету Рэспублікі Беларусь. І дазвольце працаваць у гэтым накірунку, каб мы там працавалі добра. Я вам таксама магу сказаць як чалавек, які ведае, што такое бібліятэка. Мы абмяркоўвалі гэта пытанне. Па тэхналагічных прычынах там вельмі цяжка стварыць бібліятэку. І па тэхналагічных прычынах цяжка там размясціць навуковую ўстанову альбо перадаць будынак універсітэту. Вось якія тут матывы. І таму давайце рашаць тыя пытанні, якія трэба, там, дзе трэба. Калі ласка, уключыце першы



мікрафон.

Пазьняк З.С. Шаноўны Станіслаў Станіслававіч! Я ўсё ж такі настойваю паставіць гэтае пытанне на галасаванне. Дэпутаты апазіцыі катэгарычна супраць такога пераезду ў будынкі ЦК. Давайце вырашым гэта Вярхоўным Саветам.

Старшыня. Уключым у павестку дня? Так, уносім... Уключыце дзевяты мікрафон.

Лятко А.А. (Іўеўская выбарчая акруга № 254, Гродзенская вобласць). Станіслаў Станіслававіч! Я падтрымліваю дэпутата Лукашэнку ў тым, што нам трэба зняць з павесткі дня трэці пункт. Я лічу, што не Вярхоўны Савет наш працуе дрэнна, а дрэнна працуюць у нас мясцовыя Саветы. Мы не звяртаем увагі на тое, што робіцца ў абласных Саветах, у раённых. А ў нас атрымліваецца, як у тайзе: верх шуміць, а ўнізе ўсё спакойна. Унізе засталіся тыя самыя органы, што і былі. Калі ішла барацьба за Вярхоўны Савет, за тое, каб сюды трапіць, ніхто з апазіцыі не звяртаў увагі, каго выбіраюць у мясцовыя Саветы. І колькі мы б тут ні біліся, якую мы тут палітыку ні праводзілі б, якія б пытанні ні вырашалі, у нас у рэспубліцы нічога не будзе рухацца наперад, таму што ў нас на нізах -- балота.

Старшыня. Хто за тое, каб спыніць спрэчкі, прашу галасаваць. Хто супраць? Хто ўстрымаўся?

Вынікі галасавання:

| | |
|---|---|
| Кворум для галасавання | 232 |
| Кворум для прыняцця рашэння | 139 |
| Зарэгістравана | 277 |
| Прагаласавала "за" | 207 |
| Прагаласавала "супраць" | 0 |
| Устрымалася | 1 |
| Усяго прагаласавала | 208 |
| Не галасавала | 69 |

Рашэнне прынята.

Цяпер будзем галасаваць па пунктах. Шаноўныя народныя дэпутаты! Мы, магчыма, будзем аб'ядноўваць групы пунктаў дзе-нідзе, калі будзе ваша згода. Пачынаем па пунктах, якія прапанаваны Прэзідыумам Вярхоўнага Савета.

Шаладонаў В.І. Пункт першы. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь...

Старшыня. Першы пункт галасаваць не трэба, мы галасавалі за яго на мінулай сесіі, пастанавілі яго перанесці на гэту сесію, так што ён ужо прыняты. Мы яго паставім там, дзе трэба будзе. Вы прапануеце зняць? Ен уключаны рашэннем мінулай сесіі. Ніякіх дзвюх трацей, не блытайце, калі ласка, народны дэпутат Цумараў. Гэта ваша асабістая думка. Хто за тое, каб зняць першае пытанне з павесткі дня, прашу галасаваць. Хто супраць? Хто ўстрымаўся?

Выніки галасавання:

| | |
|---|---|
| Кворум для галасавання | 232 |
| Кворум для прыняцця рашэння | 174 |
| Зарэгістравана | 277 |
| Прагаласавала "за" | 97 |
| Прагаласавала "супраць" | 85 |
| Устрымалася | 10 |
| Усяго прагаласавала | 192 |
| Не галасавала | 85 |

Рашэнне не прынята.

Шаладонаў В.І. Другі пункт. Аб праектах заканадаўчых актаў Рэспублікі Беларусь "Аб падатках і зборах у Рэспубліцы Беларусь".

Старшыня. Хто за тое, каб прыняць другі пункт камплектна? Хто супраць? Хто ўстрымаўся?

Выніки галасавання:

| | |
|---|---|
| Кворум для галасавання | 232 |
| Кворум для прыняцця рашэння | 174 |
| Зарэгістравана | 277 |
| Прагаласавала "за" | 223 |
| Прагаласавала "супраць" | 0 |
| Устрымалася | 1 |
| Усяго прагаласавала | 224 |
| Не галасавала | 53 |

Рашэнне прынята.

Хто за тое, каб прыняць пункт трэці? Хто супраць? Хто ўстрымаўся?



Выніки галасавання:

| | |
|---|---|
| Кворум для галасавання | 232 |
| Кворум для прыняцця рашэння | 174 |
| Зарэгістравана | 277 |
| Прагаласавала "за" | 77 |
| Прагаласавала "супраць" | 70 |
| Устрымалася | 35 |
| Усяго прагаласавала | 182 |
| Не галасавала | 95 |

Рашэнне не прынята.

Пункт трэці не прымаецца. Шаноўныя народныя дэпутаты, можа, будзем галасаваць толькі "за"? Мы так можам тэхнічна? Пункт чацвёрты.

Шаладонаў В.І. Аб праекце Пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь "Аб неадкладных мерах, звязаных з пенсіённым забеспячэннем грамадзян Рэспублікі Беларусь".

Старшыня. Хто за чацвёрты пункт, прашу галасаваць. Рашэнне прынята. Прагаласавала "за" 240 народных дэпутатаў.

Шаладонаў В.І. Пункт пяты. Аб праекце дагавора "Аб Садружнасці Суверэнных Дзяржаў".

Старшыня. Хто за тое, каб уключыць яго ў павестку дня, прашу галасаваць.

Рашэнне не прынята. Прагаласавала "за" 102 народныя дэпутаты.

Шаладонаў В.І. Пункт шосты. Аб прагнозе сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь і праекце Дзяржаўнага плана Рэспублікі Беларусь на 1992 год.

Старшыня. Хто за, прашу галасаваць.

Рашэнне прынята. Прагаласаваў "за" 241 народны дэпутат.

Шаладонаў В.І. Пункт сёмы. Аб справаздачы па выкананню Дзяржаўнага бюджэту Рэспублікі Беларусь за 1990 год. І пункт восьмы. Аб Дзяржаўным бюджэце Рэспублікі Беларусь у 1992 годзе.

Старшыня. Сёмы і восьмы пункты. Хто за тое, каб іх уключыць, прашу галасаваць.

Рашэнне прынята. Прагаласавала "за" 236 народных дэпутатаў.

Шаладонаў В.І. Пункт дзевяты. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь "Аб амністыі некаторых катэгорый асуджаных". Гэта добра распрацаваны закон, і я прашу ўсіх вельмі ўважліва паглядзець.

Старшыня. А крымінагенную абстаноўку ён не зменіць?

Шаладонаў В.І. Не, не змяняе. Наадварот, праяўляе міласэрнасць да людзей.

Старшыня. Там 318 чалавек падпадае. Калі ласка.

Грыб М.І. (Віцебская-Савецкая выбарчая акруга № 178). Уважаемые товарищи народные депутаты! Мы старались не разглашать этот закон, который действительно отработан. На сегодня все правки, всё, что касается этого вопроса, после 12 часов будет роздано каждому депутату.

Шаладонаў В.І. Я думаю, што трэба ўключыць у павестку дня, а потым рашаць, калі азнаёміцца.

Старшыня. Хто за тое, каб уключыць у павестку дня пункт дзевяты, прашу галасаваць.

Рашэнне прынята. Прагаласавала "за" 182 народныя дэпутаты.

Шаладонаў В.І. Пункт дзесяты. Аб праекце пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь "Аб размеры адлічэнняў у Дзяржаўны фонд садзейнічання занятасці". Гэты пункт перанесены з мінулай сесіі.

Старшыня. Есць прапанова, каб яго зняць. Гэта было рашэнне мінулай сесіі.

Шаладонаў В.І. Мы перанеслі для таго, каб разглядаць у пакеце ўсіх налогаў.

Старшыня. Я стаўлю пытанне на галасаванне такім чынам. Хто за тое, каб яго зняць... Яшчэ раз скажу. Я за тое, каб ён быў уключаны, але ён уключаны рашэннем мінулай сесіі. Таму ўзнікае пытанне. Хто за тое, каб яго зняць, прашу галасаваць.

Рашэнне не прынята. Прагаласавала "за" 85 народных дэпутатаў.

Шаладонаў В.І. Пункт адзінаццаты. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь "Аб фарміраванні і выкарыстанні мінімальнага спажывецкага бюджэту".



Старшыня. Хто за тое, каб яго ўключыць, прашу галасаваць.

Рашэнне прынята. Прагаласавала "за" 234 народныя дэпутаты.

Шаладонаў В.І. Пункт дванаццаты. Аб праекце пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь "Аб размеры мінімальнай заработнай платы". Мы ў Прэзідыуме разглядалі ўвесь закон, але гэты закон вельмі вялікі, і вырашылі так: прыняць пастанову, дзе абазначыць мінімальны размер заработнай платы, і тады працаваць далей. Не трэба ўвесь закон разглядаць сёння.

Старшыня. Першы мікрафон.

Зданевіч Л.У. (Машэраўская выбарчая акруга № 39, г.Мінск). По мотивам именно двенадцатого пункта. Дело в том, что в Госкомтруде разработан проект закона. Может быть, рассмотреть и в этот же пункт, не вводя дополнительный пункт, дописать. Я предлагаю такую формулировку: о проекте закона о минимальной заработной плате и государственных гарантиях в области оплаты труда и проекте постановления Верховного Совета Республики Беларусь о размере минимальной заработной платы. Остается один пункт.

Старшыня. Яго можна разглядаць як вашу папраўку.

Зданевіч Л.У. Я думаю, что это будет комплексный подход.

Старшыня. Шаноўныя народныя дэпутаты, ёсць такая прапанова: улічыць прапанову Федэрацыі прафсаюзаў і зрабіць гэты пункт больш шырокім у адпаведнасці з толькі што зробленай прапановай. Можна галасаваць. Прэзідыум, відавочна, пагадзіцца з такім дапаўненнем, прапанаваным Дзяржкампрацы і народным дэпутатам Зданевічам. Хто за ўдакладненую рэдакцыю гэтага пункта, прашу галасаваць.

Рашэнне прынята. Прагаласавала "за" 245 народных дэпутатаў.

Шаладонаў В.І. Пункт 13. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь "Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь аб індэксацыі даходаў насельніцтва з улікам інфляцыі".

Старшыня. Хто за тое, каб уключыць гэты пункт у павестку дня сесіі, прашу галасаваць.

Прагаласавала "за" 245 народных дэпутатаў. Рашэнне прынята.

Шаладонаў В.І. Пункт 14. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь "Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у некаторыя заканадаўчыя акты Рэспублікі Беларусь".

Старшыня. Што тут маецца на ўвазе?

Шаладонаў В.І. Тут маюцца на ўвазе змены ў Законе па забеспячэнню рэабілітаваных.

Старшыня. Гэта тое, над чым працавала камісія.

Шаладонаў В.І. Так, там невялікая пастанова. Трэба прывесці ў адпаведнасць, узгадніць усё гэта.

Старшыня. Хто за тое, каб уключыць пункт 14, прашу галасаваць.

Прагаласавала "за" 229 народных дэпутатаў.

Пытанне ўключаецца ў павестку дня.

Шаладонаў В.І. Пункт 15. Аб павелічэнні штатнай колькасці гаспадарчых судоў Рэспублікі Беларусь.

Старшыня. Я прашу прагаласаваць за гэты пункт. Пытанне простае, яны на самазабеспячэнні, трэба вырашаць.

Шаладонаў В.І. Узгоднена з Саветам Міністраў.

Старшыня. Хто за тое, каб прыняць пункт 15, прашу галасаваць.

Прагаласаваў "за" 221 народны дэпутат.

Прымаецца.

Шаладонаў В.І. Пункт 16. Кадравыя пытанні.

Старшыня. Абавязкова будзем іх вырашаць. Хто за тое, каб уключыць кадравыя пытанні ў павестку дня, прашу галасаваць.

Рашэнне прынята. Прагаласавала "за" 210 народных дэпутатаў.

Шаладонаў В.І. Пункт 17. Аб дарожных фондах у Рэспубліцы Беларусь. Уносіць прапанову дэпутат Капытоў.



Старшыня. Прапанова народнага дэпутата Капытова, падтрыманая некалькімі дэпутатамі.

Шаладонаў В.І. І Савет Міністраў уносіць.

Старшыня. Хто за гэту прапанову, прашу галасаваць. Прымаецца.

Прагаласавала "за" 223 народныя дэпутаты.

Шаладонаў В.І. Законапраект аб Кантрольнай палаце.

Старшыня. Я прашу падтрымаць гэты пункт. Хто за?

Рашэнне прынята. Прагаласавала "за" 166 народных дэпутатаў.

Старшыня. Шаноўныя народныя дэпутаты, я думаю, што мы робім памылку. Падыміце рукі, хто не зразумеў, у чым справа?

Шаладонаў В.І. Законапраект аб Кантрольнай палаце. Не трэба паймення. Гэты закон трэба ў першым чытанні абавязкова разглядаць. Нам трэба ўстанавіць кантроль за расходаваннем бюджэту.

Старшыня. Адну хвілінку. Паважаныя народныя дэпутаты! Я думаю, што не трэба нам тут... Непаразуменне тэхнічнае атрымалася. Я хачу сказаць: калі мы хочам, каб бюджэт, які мы зацвердзім, выконваўся, мы павінны кантраляваць яго выкананне. Я стаўлю гэта пытанне на галасаванне. Хто за тое, каб уключыць пытанне аб Кантрольнай палаце, прашу галасаваць.

Рашэнне прынята.

Прагаласавала "за" 210 народных дэпутатаў.

Шаладонаў В.І. Прапануецца прагаласаваць аб канцэпцыі аб мытнай службе і аб старшыні мытнай службы.

Старшыня. Прапанаваў Савет Міністраў. Заўважце, ў рамках ратыфікаваных вамі пагадненняў аб садружнасці прадугледжана свабода праходу і праезду грамадзян і свабода інфармацыі. А мытні нам патрэбны і новыя, і старыя, і я прасіў бы падтрымаць Савет Міністраў. Хто за ўключэнне гэтага пытання, прашу галасаваць. Прымаецца гэта пастанова.

Прагаласавала "за" 240 народных дэпутатаў. Прымаецца гэта прапанова.

Цяпер, паважаныя народныя дэпутаты, я магу аб'яднаць два пытанні, якія ўносіць Міністэрства замежных спраў. Гэта ратыфікацыя факультатыўнага пратакола аб Савеце па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе і аб льготным правозе грузаў і лекаў для ЧАЭС. Гэтыя два пытанні, праекты пастановаў распрацаваны, іх можна прымаць без дыскусій. Хто за тое, каб іх уключыць, прашу галасаваць.

Прымаецца. Прагаласавала "за" 238 народных дэпутатаў.

Шаладонаў В.І. Цяпер прапануецца разглядзець пытанне, якое разглядалася на Прэзідыуме, але мы яго не ўключылі, яго ўносіць апазіцыя -- аб прававых і сацыяльных гарантыях народных дэпутатаў СССР.

Старшыня. Я думаю, што трэба вырашаць нам гэтае пытанне. Хто за яго ўключэнне ў павестку дня, прашу галасаваць.

Уключаецца гэта пытанне. Прагаласавала "за" 199 народных дэпутатаў.

Шаладонаў В.І. Прапановы дэпутацкай апазіцыі БНФ у парадак дня восьмай чарговай сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

Першае. Аб праекце Закона пра выбары ў Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь. Тое, што абвяшчаў народны дэпутат Пазьняк.

Старшыня. Уключыце першы мікрафон, калі ласка.

Голубеў В.Ф. Шаноўныя народныя дэпутаты! Сёння дэпутат Лукашэнка сказаў, што гэта спецыфічная сесія. Шаноўны дэпутат Трафіменка сказаў: не трэба разглядаць ніякія пытанні, да якіх пэўныя дэпутаты не падрыхтаваныя. Хуценька скончыць усё і ехаць дадому.

Шаноўны Вярхоўны Савет! Гэта яшчэ раз падкрэслівае тое, што Вярхоўны Савет у тым стане, у якім ён ёсць, зараз працаваць так, як трэба не можа. І галасаванне па рэарганізацыі паказала гэта таксама. Апазіцыя прапануе сваю канстытуцыйную рэформу працы Вярхоўнага Савета. Дарэчы, мы тут можам разглядзець два варыянты -- той, які ўносіла Камісія па заканадаўству, і той, што мы прапануем... Закон пра выбары ў Вярхоўны Савет. Гэта не значыць, што ён павінен быць прыняты. Гэта першае чытанне. Але для таго, каб пайшла праца, Вярхоўны Савет проста абавязаны ўзяць яго для свайго



разгляду, калі ён глядзіць наперад. Я прашу вас, шаноўныя народныя дэпутаты, уключыць гэтыя пытанні ў павестку дня гэтай сесіі.

Старшыня. Трэці мікрафон. Мы скончылі дыскусію.

Трафіменка В.С. Уважаемые народные депутаты! То, что вносится сейчас законопроект о выборах, я считаю, это желание договорить еще раз. И пусть народный депутат Голубев не интерпретирует в своем понимании эти вопросы. Вы вспомните последние выборы в Минске. Сколько пришло на эти выборы людей -- 20--25, 15 процентов. Так зачем же нам еще раз с людьми заводить такие разговоры, зачем нам сегодня здесь, в Верховном Совете, делать его хуже, чем он есть? А у вас постоянно это с политических позиций делается.

Старшыня. Калі ласка, сёмы мікрафон.

Веславухаў М.М. (Бабініцкая выбарчая акруга № 154, Віцебская вобласць). Уважаемые Станислав Станиславович, Василий Иванович! На прошлой сессии, когда у нас не было кворума, уважаемый председатель Комиссии по законодательству Булахов внес предложение, точнее проект постановления об ответственности тех депутатов, которые отсутствуют на сессиях. Вношу предложение этот проект постановления в повестку дня включить, поскольку мы отвергли третий пункт данного постановления.

Старшыня. Тут ёсць прапанова, мы прагаласуем пасля. Паважаныя народныя дэпутаты, давайце мы з трэцім пунктам зараз удакладнім. Тут прапанова сур'ёзная. Я думаю, што калі мы не прымем Вярхоўным Саветам рашэнне аб адказнасці дэпутатаў, то не зварухнёмся з месца. Давайце будзем рэарганізацыю разумець больш проста. Калі ласка, першы мікрафон, фармулёўку трэба даць.

Новік У.У. (Чыгуначная выбарчая акруга № 18, г.Мінск). Паважаныя дэпутаты! Я лічу, што рэарганізацыю Вярхоўнага Савета можна правесці і без змен у Канстытуцыі. Такія прапановы я падаваў у Камісію па заканадаўству і Старшыні, яшчэ Дзямянцею. Таму я лічу, што трэці пункт павінен гучаць наступным чынам: аб рэарганізацыі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь і яго органаў.

Старшыня. Мы ўжо прайшлі яго.

Новік У.У. Мы не прайшлі, там былі канстытуцыйныя папраўкі, а я прапаную ўключыць пытанне аб рэарганізацыі, і ёсць магчымасць

рэарганізаваць без змен у Канстытуцыі.

Шаладонаў В.І. Такога не бывае.

Новік У.У. Бывае. І такія прапановы пададзены. Камісіяй пададзена была яшчэ Дзямянцэю і перададзена Булахаву прапанова. Гэта змена ў Рэгламент -- прадастаўленне ўсім дэпутатам роўных правоў працаваць на прафесійнай аснове. Мы ў гэтым годзе ўжо 80 дзён правялі на пленарных пасяджэннях. 80 дзён! Дадайце яшчэ 20 дзён работы ў камісіях, выкананне даручэнняў Вярхоўнага Савета. І, такім чынам, 100 рабочых дзён мы правялі тут, у Вярхоўным Савеце, а гэта 5 месяцаў. Дабаўце паўтара месяца адпачынку дэпутату. Паўгода мы займаемся толькі дэпутацкай дзейнасцю. Які парламент можа дапусціць такое, якая краіна, што дэпутат -- паўпрафесіянал на рабоце і паўпрафесіянал у парламенце. Трэба пераходзіць да прафесійнай работы ў парламенце. І гэта можна правесці без канстытуцыйных змен. Канстытуцыя дазваляе дэпутатам працаваць на прафесійнай аснове.

Старшыня. Гэта вельмі добра, але ёсць на гэты конт думка камісіі. Гэта ж ваша думка.

Новік У.У. Перададзены прапановы, але камісія чамусьці прынцыпова не разглядае гэта. Таму я настойваю: пытанне аб рэарганізацыі ўключыць, ёсць мая прапанова і Баршчэўскага. Паставіць на галасаванне.

Старшыня. Я хачу цяпер паставіць на галасаванне наступнае пытанне. Было б карэктна замест трэцяга пункта ўключыць пункт такі: аб адказнасці дэпутатаў, якія не ўдзельнічаюць у пленарных пасяджэннях Вярхоўнага Савета. Хто за тое, каб уключыць гэты пункт у павестку дня, прашу галасаваць.

Рашэнне прынята. Прагаласавала "за" 193 народныя дэпутаты.

Уключаецца гэты пункт замест трэцяга.

Шаладонаў В.І. Аб праекце Закона аб выбарах у Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь.

Старшыня. Мы скончылі дыскусію. Хто за тое, каб уключыць гэты пункт у павестку дня, прашу галасаваць.



Рашэнне не прынята. Прагаласавала "за" 64 народныя дэпутаты.

Шаладонаў В.І. Аб канстытуцыйнай рэформе працы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

Старшыня. Прапанова народнага дэпутата Пазьняка. Калі ласка, хто за тое, каб уключыць гэты пункт у павестку дня, прашу галасаваць.

Рашэнне не прынята. Прагаласавала "за" 69 народных дэпутатаў.

Шаладонаў В.І. Наступнае пытанне, трэці пункт "Аб стварэнні ўзброеных сіл у Рэспубліцы Беларусь і вайсковых пытаннях".

Старшыня. Хто за ўключэнне гэтага пункта, прашу галасаваць.

Рашэнне не прынята. Прагаласавала "за" 75 народных дэпутатаў.

Шаладонаў В.І. Наступнае пытанне -- "Аб забароне палітычных арганізацыяў, структураў і групаў, якія грунтуюцца на антычалавечых поглядах і вучэннях".

Старшыня. Хто за ўключэнне гэтага пункта, прашу галасаваць.

Рашэнне не прынята. Прагаласавала "за" 93 народныя дэпутаты.

Шаладонаў В.І. Пятае. Аб унясенні змяненняў у Канстытуцыйны Закон Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь "Аб дзяржаўным суверэнітэце Рэспублікі Беларусь".

Старшыня. Хто за ўключэнне гэтага пункта, прашу галасаваць.

Рашэнне не прынята. Прагаласавала "за" 93 народныя дэпутаты.

Шаладонаў В.І. Шосты пункт быў аб Кантрольнай палаце. Мы прагаласавалі, уключылі яго. Сёмы пункт: "Аб замежных і антыканстытуцыйных палітычных арганізацыях на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь".

Старшыня. Хто за тое, каб уключыць гэты пункт, прашу галасаваць.

Рашэнне не прынята. Прагаласавала "за" 87 народных дэпутатаў.

Шаладонаў В.І. Аб фінансаванні навукова-даследчых інстытутаў

Акадэміі навук Рэспублікі Беларусь і вышэйшых навучальных устаноў рэспублікі.

Старшыня. Калі ласка, другі мікрафон.

Карпенка Г.Д. (Маладзечанская-Купалаўская выбарчая акруга № 75, Мінская вобласць). Уважаемые народные депутаты! Этот вопрос внимательно рассматривается с учеными Академии наук и Минвуза. Вчера заседала комиссия и приняла соответствующее решение, в том числе и по бюджету. Поэтому у меня просьба: этот вопрос вынести на следующую сессию.

Старшыня. Дыскусіі не будзе. Хто за тое, каб уключыць гэты пункт? Калі ласка, Вячаслаў Францавіч.

Кебіч В.Ф. (Іванаўская выбарчая акруга № 120, Брэсцкая вобласць). Дело в том, что фундаментальная наука действительно разваливается. Академия союзная передана в ведение России и, конечно, будет работать прежде всего на Россию. Поэтому для того, чтобы нам вносить статьи бюджета, я думаю, не стоит откладывать далеко эти вопросы.

Старшыня. Хто праект дакументаў падрыхтуе? Савет Міністраў унясе пакет неабходных матэрыялаў. Другі мікрафон.

З месца. Вячеслав Францевич, в бюджет эти вопросы внесены. Вчера с Минфином мы эти предложения все дали. Они пойдут строкой в бюджете полностью.

Старшыня. Давайце разгледзім у адным пакеце, і будзе ўсё ў парадку, і павага будзе поўная да вышэйшых навучальных устаноў і да навукова-даследчых інстытутаў. Хто за тое, каб уключыць гэты пункт, прашу галасаваць.

Рашэнне не прынята. Прагаласавала "за" 150 народных дэпутатаў.

Шаладонаў В.І. Яшчэ прапанова -- "Аб стварэнні марскога міністэрства Рэспублікі Беларусь".

Старшыня. Хто за тое, каб мы стварылі марское міністэрства, прашу галасаваць.

Рашэнне не прымаецца. Прагаласавала "за" 67 народных дэпутатаў.



Шаноўныя народныя дэпутаты, у нас даўно падрыхтаваны законапраект "Аб ахове і забеспячэнні гістарычнай культурнай спадчыны". Я думаю, чым раней мы яго прымем, тым будзе лепей. Ён даўно гатовы. Я проста заклікаю вас: давайце падтрымаем прапанову камісіі. Гэта простая работа, мне здаецца, што можна ў першым чытанні яго прыняць за 15 хвілін. Хто за гэту прапанову, прашу галасаваць.

Рашэнне не прынята. Прагаласавала "за" 137 народных дэпутатаў.

Усе пытанні. Цяпер мы прымем усё цалкам. Першы мікрафон, калі ласка.

Новік У.У. Паважаныя калегі! Я хацеў бы, каб усё ж такі па трэцяму пункту мы прагаласавалі ў рэдакцыі, якую я прапанаваў, -- аб рэарганізацыі Вярхоўнага Савета. Мы павінны абмяняцца хаця б думкамі. Бо прапановы, якія падаюцца ў камісію, недзе знікаюць. Абмяняемся думкамі без унясення змен у Канстытуцыю. Там дастаткова ўнесці змены ў Рэгламент. І таму я прапаную гэты пункт уключыць і абмяняцца думкамі, бо пытанне наспела.

Старшыня. Шаноўныя народныя дэпутаты! Я думаю, што галасаваннем хутчэй вырашым лёс. Хто за ўключэнне пытання аб рэарганізацыі Вярхоўнага Савета, прашу галасаваць.

Рашэнне не прымаецца. Прагаласавала "за" 100 народных дэпутатаў.

Я прашу цяпер прагаласаваць за тое, каб павестка была складзена з усіх тых пунктаў, якія набралі большасць, неабходную для ўключэння ў павестку дня. За павестку цалкам як суму прынятых пунктаў. Хто за? Хто супраць? Хто ўстрымаўся?

Вынікі галасавання:

| | |
|---|---|
| Кворум для галасавання | 232 |
| Кворум для прыняцця рашэння | 174 |
| Зарэгістравана | 277 |
| Прагаласавала "за" | 222 |
| Прагаласавала "супраць" | 4 |
| Устрымалася | 0 |
| Усяго прагаласавала | 226 |
| Не галасавала | 51 |

Рашэнне прынята.

Пастанова аб зацвярджэнні парадку дня восьмай сесіі прымаецца. Калі ласка, Васіль Іванавіч.

Шаладонаў В.І. Паважаныя народныя дэпутаты! Нам трэба абмеркаваць раздзел "Парадак разгляду пытанняў". Я прапаную -- і гэта ўчора было ўзгоднена ў Прэзідыуме -- сёння пасля зацвярджэння павесткі дня работы Вярхоўнага Савета ўсе тыя законапраекты, якія раздадзены вам сёння, разгледзець у камісіях, а заўтра пачаць у 10 гадзін раніцы разглядаць законапраекты на пленарным пасяджэнні.

Старшыня. Шаноўныя народныя дэпутаты! Давайце мы зараз вырашым, як будзем працаваць. Вы прапануеце зрабіць цяпер перапынак?

Шаладонаў В.І. Да.

Старшыня. А можа б, мы паступілі інакш? Мы б заслухалі цяпер даклад Унучкі Рамана Іосіфавіча па камплекту пытанняў аб падатках, атрымалі б ~умачэнні, а пасля б зрабілі перапынак для работы ў камісіях. Вы, Раман Іосіфавіч, згодны з такім падыходам? Згодны. Дзякую. Пяты мікрафон, калі ласка.

Лукашэнка А.Р. Я первый раз по этому вопросу выступаю. Я вас поддерживаю в этом плане, как вы вот сказали, но единственное дополнение к этому. Вы очень правильно сделали, по дням расписали нашу повестку дня, которую мы приняли. Но уточнить надо Президиуму дополнения. Я вас очень прошу: давайте мы хоть раз проведем сессию так, как мы спланировали. Записано в этот день три вопроса этих рассмотреть -- давайте мы их рассмотрим, проголосуем, как цивилизованные парламентарии. С этого и начнем порядок в парламенте.

Старшыня. Калі ласка, другі мікрафон.

Гаркун У.Г. (Дзяржынская гарадская выбарчая акруга № 60, Мінская вобласць). Я хотел бы уточнить, Станислав Станиславович, чтобы планировать работу. Сколько времени пойдет на доклад Внучки и во сколько можем начать работу в комиссиях, чтобы уже можно было планировать?

Старшыня. Раман Іосіфавіч, які час патрэбен?



Шаладонаў В.І. Пяць--сем хвілін для даклада.

Старшыня. Мы закончым у 12 гадзін. Парадак дня зацверджаны. Васіль Іванавіч, дзякую вам. Я запрашаю на трыбуну народнага дэпутата Унучку -- старшыню пастаяннай камісіі, і мы пачнём разгляд пытання аб падатках і зборах, якія бяруцца ў Дзяржаўны бюджэт Рэспублікі Беларусь.

Унучка Р.І. (Навагрудская сельская выбарчая акруга № 263, Гродзенская вобласць). Уважаемые народные депутаты, уважаемый президиум!

На седьмой сессии двенадцатого созыва Верховным Советом Республики Беларусь были приняты в первом чтении законопроекты Республики Беларусь о налогообложении. Плановая и бюджетно-финансовая комиссия тщательно изучила и проанализировала высказанные предложения и замечания народных депутатов при рассмотрении проектов законов в первом чтении, а также поступившие предложения от постоянных комиссий, министерств, ведомств, предприятий, общественных организаций и отдельных граждан.

Самое активное участие в работе над окончательным текстом проектов законов приняли постоянные комиссии Верховного Совета Республики Беларусь по экологии и рациональному использованию природных ресурсов. Этой комиссией был подготовлен свой вариант законопроекта о налогах за пользование природными ресурсами. Тесный контакт с народным депутатом товарищем Сивицким Борисом Парфеновичем, Шевцовым Владимиром Михайловичем позволил сделать один согласованный проект. Я думаю, что его принятие не составит сложностей.

В тесном контакте велась работа над законопроектами с комиссиями по строительству и архитектуре, по развитию промышленности и энергетики, по вопросам труда, цен и занятости населения, по делам ветеранов, инвалидов и женщин, Союзом предпринимателей Республики Беларусь, Научно-промышленной ассоциацией, Федерацией профсоюзов республики. Было проанализировано и изучено свыше 460 предложений, которые с максимальной возможностью были учтены в законопроектах. Приняты в первом чтении три законопроекта о налогах. В соответствии с постановлением Верховного Совета ко второму чтению на ваше усмотрение выносится пакет из 12 законопроектов. На первый взгляд,

казалось бы, совсем невинная операция по разделению принятых в первом чтении законопроектов на отдельные законы оказалась достаточно трудной и сложной задачей. Мы считаем, что нам удалось сохранить в предложенных вам во втором чтении законопроектах концептуальные подходы, избежать повторений, сохранить логическую связь. При разработке этого пакета законов были учтены принципиальные положения утвержденной Верховным Советом в октябре 1990 года программы перехода Республики Беларусь к рыночной экономике. В этом пакете выносится проект закона о налогах и сборах, взимаемых в бюджет Республики Беларусь, а также проекты законов по каждом конкретному виду налогов.

Итак, на ваше рассмотрение вносятся проекты законов о налоге на добавленную стоимость, об акцизах, о налогах на доходы и прибыль, о налоге за пользование природными ресурсами, о налоге на недвижимость, о налоге на экспорт и импорт, о налоге на землю, о налоге на использование автомобильного транспорта, о транзитном налоге, о государственной пошлине, о подоходном налоге с граждан. В каждом законе определены плательщики, объекты обложения, льготы и ставки нало: з.

По некоторым налогам, по нашему мнению, целесообразно для более быстрого и гибкого влияния на изменяющуюся ситуацию предоставить право установления ставок Совету Министров Республики Беларусь. В частности, ставки налога на экспорт и импорт, государственные пошлины, плата за природные ресурсы. Хотя у депутатов есть и другие мнения.

Хочу сказать, что льготы, которые предоставлены законами Республики Беларусь о приоритетном развитии села и агропромышленного комплекса, о культуре, об инвестициях, о социальной защите инвалидов, сохраняются,и изменений в уже принятые законы не вносится, то есть Планово-бюджетная комиссия постаралась, чтобы все те льготы, которые были рассмотрены и приняты ранее Верховным Советом, сохранились.

При доработке проектов законов ко второму чтению учитывалось изменение экономической и политической ситуации. Вы знаете, что в начале декабря этого года образовано Содружество Независимых Государств. Одним из первых является решение Содружества о применении единой ставки налога на добавленную стоимость в рамках



Содружества Независимых Государств. Поэтому предлагается единая ставка этого налога в размере 28 процентов.

Необходимость сдерживания инвестиционных процессов в рамках Содружества Независимых Государств вызывает необходимость экономического регулирования заработной платы, применяемой при исчислении налогообложения прибыли. Поэтому Планов..я и бюджетно-финансовая комиссия считает возможным согласиться с предложением Совета Министров Республики Беларусь и вносит на ваше обсуждение предложение о том, что при исчислении налогооблагаемой прибыли расходы на оплату труда принимаются в размере минимальной средней заработной платы на одного работающего, установленной и индексированной в законодательном порядке.

В процессе работы над законопроектами решено внести на ваше рассмотрение закон (и так было принято в первом чтении) только о тех платежах и отчислениях, которые в обязательном порядке должны вноситься плательщиками в доход бюджета.

Хочу довести до вашего сведения, что было предложение включить в наши законопроекты весь перечень налогов и сборов, взимаемых на территории Республики Беларусь. В частности, Комиссия по вопросам труда, цен, занятости и социальной защищенности населения предложила принять систему налогов и сборов, то есть в принципе кодекс, включающий в себя поступления не только в бюджет, но и во внебюджетные фонды. В частности, предлагают включить как один из налогов социальный налог, включающий в себя пенсионный фонд, фонд занятости и фонд социального страхования. Кроме того, есть и ряд других фондов: дорожный, страховой медицины и другие. Мы согласны с такой постановкой вопроса и считаем, что такую систему, как кодекс налогового законодательства, нам необходимо иметь и над ним надо уже работать.

Сегодня же, учитывая, что в первом чтении были приняты законопроекты налогообложения, поступающего только в бюджет, мы не могли расширить перечень налогов. Кроме того, считаем, что ряд законопроектов должны готовить другие комиссии, а наши законы войдут составной частью в Кодекс законов о налогах и сборах в Республике Беларусь.

Уважаемые народные депутаты! Советом Министров, и в частности Министерством финансов, был исчислен бюджет нашей республики на

основании тех предложений, которые сегодня вносятся на ваше рассмотрение. По их исчислениям мы все-таки не смогли выйти и составить бюджет без дефицита. Сегодня не решены многие вопросы, я имею в виду финансирование Чернобыля, финансирование армии, не решен вопрос и о том, какой же должен быть дефицит бюджета на 1992 год. Эти сложные вопросы, конечно же, говорят о том, что мы должны изыскать и ряд других налогов, которые могли бы все-таки пополнить бюджет республики. То есть экономическая ситуация довольно сложная. Я думаю, что мы о ней будем говорить и дальше, но все-таки сегодня, обращаясь к вам, я бы хотел просить депутатов более активно участвовать в работе над законопроектами и использовать все имеющиеся у вас возможности для того, чтобы мы могли, во всяком случае на этой неделе, законопроекты о налогах принять. Потому что будут внесены какие-то изменения в бюджет республики, и, возможно, к этому времени, через неделю-другую, какие-то вопросы финансирования будут обрисованы более конкретно.

Два слова о том, как я представляю работу дальше над нашими законопроектами. Я бы хотел, чтобы во время перерыва, который будет сегодня, вы рассмотрели в первоочередном порядке те законопроекты, которые значатся в нашей повестке дня, в той последовательности. Это не говорит о том, что вы не можете давать свои замечания и по другим законопроектам. Но мы будем так их рассматривать, и желательно было бы учесть ваши замечания о последовательности их рассмотрения, потому что 12 законопроектов -- это все-таки вопрос очень сложный.

Другой вопрос. Если кому-то на комиссию нужны специалисты, необходимы какие-то люди, владеющие этим вопросом, я прошу в Планово-бюджетную комиссию сказать об этом, и мы направим в вашу комиссию эксперта для того, чтобы могли более конкретно, на высоком профессиональном уровне рассмотреть те вопросы, которые предлагаются. Планово-бюджетная комиссия работает в комнате № 556. Если у кого-то есть желание работать с этой комиссией над законопроектами, прошу посещать комиссию и вносить свои предложения.

Старшыня. Дзякую. Есць такая прапанова. Пытанні могуць быць пісьмовыя. Сёння ж прапануецца наступны парадак абмеркавання пытанняў. Мы зараз правядзём яшчэ рэгістрацыю, паглядзім, як мы тут працуем.



У 17 гадзін 30 хвілін сёння адбудзецца пасяджэнне Прэзідыума Вярхоўнага Савета з адным пытаннем: аб ходзе сесіі. Мы абмяркуем парадак дня і парадак прадстаўлення дакументаў. Я прашу ўсіх членаў Прэзідыума ў 17.30 быць у зале пасяджэнняў Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. І прашу цяпер зрабіць аб'явы аб парадку работы сесіі. Уключыце дзевяты мікрафон.

Васільеў В.І. (Лідская-Савецкая выбарчая акруга № 257, Гродзенская вобласць). Очень плохо, что так пренебрежительно относимся к праздничным дням. Предприятия не могут составить планы поквартально... Надо принять тогда их.

Старшыня. Я вас зразумеў. Калі 256 чалавек у наяўнасці, то мы да любога пытання адносімся дрэнна. Рэарганізацыю вы адхілілі, таму дазвольце нам падумаць сёння на Прэзідыуме, што рабіць і як быць. Я вам гарантую, што зараз мы не прымем ніякага рашэння, і магу зараз вам гэта паказаць. Я думаю, што мы цяпер будзем мець кансультацыі, і заўтра мы гэта пытанне разгледзім. Я думаю, што сакратарыят павінен зараз прыняць неадкладныя меры, каб запрасіць сюды тэрмінова ўсіх дэпутатаў, якія адсутнічаюць. Таму што 90 чалавек -- гэта ж проста смеху варта. Што ж мы робім? Таму зараз зробім рэгістрацыю.

Я прашу народных дэпутатаў заняць свае месцы і зарэгістравацца. Спіс адсутнічаючых будзе тут вывешаны. Прысутнічае 261 народны дэпутат. Паважаныя народныя дэпутаты, спіс адсутнічаючых будзе дадзены сёння прадстаўнікам сродкаў масавай інфармацыі. У нас два чалавекі знаходзяцца ў камандзіроўцы. Яны накіраваны ў Рэспубліку Малдова, як вы ведаеце. Мы шукаем там шляхі па запрашэнню канстытуцыйных уладаў, падкрэсліваю, каб не ўзнікалі тут ніякія пытанні. А адзін дэпутат знаходзіцца ў камандзіроўцы ў Злучаных Штатах Амерыкі. Больш звестак няма.

Я думаю, што можна ўдакладніць: у нас быў варыянт, але з шасці чалавек толькі двух накіравалі. Зараз я не ў стане адказаць на ваша пытанне. Авін Іван Іванавіч і Вярцінскі Анатоль Ільіч, два чалавекі, паехалі ў Рэспубліку Малдова па запрашэнню прэзідэнта і ўдзельнічаюць там ва ўладкаванні пытанняў.

Калі ласка, шосты мікрафон.

Крыжаноўскі М.К. (Жодзінская-Аўтазаводская выбарчая акруга

№ 86, Мінская вобласць). Паважаныя калегі! Каб марна час не губляць, я ўношу такую прапанову: калі мы будзем на камісіях разглядаць пытанні аб падатках, адначасова давайце разгледзім (кожная камісія абавязкова) і пытанне аб святах. І кожная камісія няхай прыме рашэнне па гэтаму пытанню большасцю галасоў. І калі мы да разгляду гэтага пытання вернемся, калі ўсе камісіі прынясуць станоўчыя рашэнні, тады правесці пайменнае галасаванне і гэтае пытанне канчаткова вырашыць.

<u>Старшыня.</u> Дзякую. Ці ёсць аб'явы ў сакратарыята? Калі ласка, старшыня сакратарыята.

(Ідуць аб'явы сакратарыята).

На гэтым пленарнае пасяджэнне закрываецца.

Зак. 01313. Т. 360. ППП-91